# МІНСКАЯ ПРАЎДА

Газета заснавана 1 лістапада 1950 года

Субота, 15 кастрычніка 1994 года

№ 110 (10810)

Цана 30 руб.


# РАЗЛІЧВАЙЦЕ НА СВАЕ СІЛЫ,

## а мы, чым можам, дапаможам, — сказаў салігорцам Прэзідэнт Беларусі ў час рабочага візіту ў горад шахцёраў

**Тры тыдні назад дэлегацыя салігорцаў ездзіла на прыём да Прэзідэнта рэспублікі. Яны прасілі: дапамажыце! Кацельня ўстарэлая, таму гораду не хапае 40 працэнтаў цяпла. Тры гады ўзводзіцца сучасная кацельня, але з-за недахопу сродкаў будоўля спынілася. У горад амаль удвая менш патрэбнасці паступае вады. Тут самае высокае ў рэспубліцы беспрацоўе — 7 працэнтаў. З-за адсутнасці сыравіны прастойваюць прадпрыемствы...**

**Уважліва выслухаў тады пасланцоў А.Р.Лукашэнка, заявіў:**

**— Лепш за ўсё з вашымі праблемамі разабрацца непасрэдна на месцы. Выберу час, прыеду.**

**І Прэзідэнт стрымаў слова, цэлы дзень знаходзіўся ў Салігорску.**

### Праца, давер, час

Зразумела, першым чынам А.Р.Лукашэнка вырашыў азнаёміцца з працай гарнякоў. Для чаго ў шахцёрскай робе, касцы, з лямпай спусціўся ў забой Другога рудніка, пагутарыў з людзьмі. Потым пабываў на мясаперапрацоўчым комплексе, які набыў «Беларускалій». Прэзідэнт даў высокую ацэнку прадпрыемству, высакаякаснай і адноснa таннай прадукцыі, якая сёння вельмі патрэбна людзям.

А потым у Палацы культуры гарнякоў А.Р.Лукашэнка сустрэўся з жыхарамі горада. Ён расказаў аб праблемах, над вырашэннем якіх працуе ўрад, абноўлены і скарочаны на 30 працэнтаў. Прэзідэнт канстатаваў, што наглядаецца пэўная стабілізацыя ў развіцці прамысловасці. Наладжваюцца больш цесныя сувязі з Расіяй, Украінай. За няпоўныя тры месяцы Прэзідэнт выдаў каля 150 указаў, распараджэнняў, у першую чаргу накіраваных на паляпшэнне эканамічнага становішча рэспублікі, стварэнне нармальных адносін у грамадстве, працоўных калектывах. Адзін з указаў, напрыклад, патрабуе, каб аклады кіраўнікоў прадпрыемстваў, арганізацый не перавышалі больш як у чатыры разы сярэдні заработак рабочага...

— Але галоўная наша задача сёння — забяспечыць рэспубліку на зіму палівам, — гаварыў А.Р.Лукашэнка. — Я абяцаю: ніхто мерзнуць не будзе. Як і галадаць. З 1 лістапада прымем меры па павелічэнню пенсій, даходаў малазабяспечаных сем"яў... Вядома, многія разлічвалі, што новыя ўлады адразу рэзка зменяць становішча ў лепшы бок. Але цудаў не бывае. Тым больш — у эканоміцы. Мы абавязкова выйдзем з крызісу. Але нам для гэтага патрэбны тры састаўныя: праца, давер, час...

Не мог Прэзідэнт не закрануць праблемы мінімальнай зарплаты. Павышаць яе няма ніякага сэнсу, упэўнены ён, бо адразу ж вырастуць цэны і ніякага выйгрышу людзі не атрымаюць. Работнікам прадпрыемстваў ніхто не стрымлівае рост зарплаты, яна штомесяц у сярэднім павялічваецца на 25—30 тысяч. Бюджэтнікам зарплата абавязкова будзе павялічана.

Гаварыў А.Р.Лукашэнка і аб ільготніках. Іх у нас ажно 5 мільёнаў 600 тысяч, на іх трацiцца 40 мільярдаў рублёў! Прэзідэнт лічыць, што спісы гэтыя трэба пераглядзець, лепш таму інваліду даплаціць грошы на праезд, а то некаторыя, ад няма чаго рабіць, проста катаюцца на аўтобусах.

Многа катэджаў пабудавана за дзяржаўны кошт? Некаторымі з іх ужо зацікавіліся праваахоўныя органы. Цяпер выпрацоўваецца механізм праверкі — хто і за што палацы тыя пабудаваў. І будуць прыняты неабходныя меры.

А потым — адказы на шматлікія пытанні.

— Як можна вывучаць з дзецьмі гісторыю Беларусі па падручніках, у якіх так многа злосці, няпраўды ў адносінах да рускіх? — пыталася настаўніца.

— Вялікая праблема, яна нават больш сур"ёзная, чым забеспячэнне цяплом, — адказаў Прэзідэнт. — Бо заўтра гэтыя дзеці будуць тварыць палітыку дзяржавы... Падрыхтаваны новы, больш аб"ектыўны падручнік па гісторыі Беларусі. Ён на рэцэнзіі. Я сам асабіста яго прачытаю. І выдадзім на дзвюх мовах — хто на якой хоча, на той і вывучае. Увогуле, беларускую мову сілком нікому навязваць не будзем.

— Што рабіць: цукровы завод, мясакамбінат, іншыя прадпрыемствы вінны нам 300 мільёнаў рублёў, а зарплату людзям няма чым плаціць? — гаварыў старшыня калгаса.

— З гэтай праблемай разбяромся на ўзроўні ўрада, — паабяцаў высокі госць.

### Канфрантацыя — вялікая раскоша

Пасля Прэзідэнт сустрэўся з кіраўнікамі прадпрыемстваў, арганізацый горада. І сам сабою ў цэнтры ўвагі прысутных аказаўся канфлікт паміж адміністрацыяй народнага прадпрыемства «Калінка» і Незалежным прафсаюзам, а А.Р.Лукашэнка — у ролі арбітра, прымірэнца. Бо непасрэдна ў яго адрас паступілі скаргі як ад аднаго, так і ад другога бакоў. Кіраўнік «Калінкі» В.Я.Кавалевіч прасіў Прэзідэнта сваёй уладай прыпыніць дзейнасць Незалежнага прафсаюза, які быццам бы дэстабілізуе абстаноўку ў працоўным калектыве, кліча работнікаў на забастоўку. Чым прынёс «Калінцы» страт больш як на 70 мільёнаў рублёў... У сваю чаргу актывісты прафсаюза скардзіліся, што Кавалевіч жорстка абыходзіцца з работнікамі фабрыкі, звальняе невінаватых, парушае працоўнае заканадаўства. Ужо паўтара месяца на «Калінцы» працуе камісія з Адміністрацыі Прэзідэнта, а канфлікт у калектыве не ліквідаваны.

А.Р.Лукашэнка ўважліва выслухаў тлумачэнні В.Я.Кавалевіча, прадстаўніка Незалежнага прафсаюза Л.А.Мархоткі. І цвёрда заявіў:

— Даю тыдзень на тое, каб вы селі за стол, уладзілі свае адносіны і стварылі нармальную абстаноўку ў калектыве. Дапамагаць вам будзе народны дэпутат Сапронаў. А калі не дамовіцеся, мы знойдзем управу на вас. Нягледзячы на тое, што «Калінка» — народнае прадпрыемства, а прафсаюз — Незалежны. Раздуваць у такі час канфрантацыю — вялікая раскоша.

Прэзідэнт паабяцаў прыглушыць незадаволеныя галасы і на трыкатажным камбінаце. Але іншым спосабам. За дзевяць месяцаў трыкатажнікі працавалі ўсяго 64 дні — няма сыравіны. Некаторыя рабочыя пачынаюць бунтаваць. А.Р.Лукашэнка заявіў, што паспрабуе дамовіцца на дзяржаўным узроўні аб пастаўках бавоўны з Сярэдняй Азіі... Згадзіўся, што аплачваць дзве трэці тарыфу рабочым, калі прадпрыемства месяцамі не дае прадукцыі, — значыць расхаладжваць іх. Для некаторых такое становішча нават выгаднае... Паабяцаў разабрацца з работнікамі гандлю, якія ўжо доўгі час не плацяць фабрыкам за атрыманую прадукцыю.

### Падаткі зніжаюцца

А як жа з кацельняй, вадой? Мэр горада М.Ф.Юрчык, увогуле, дапамогі з бюджэту і не прасіў. Ён гаварыў: горад са сваіх даходаў пакідае сабе ўсяго каля 20 працэнтаў. Астатняе ідзе ў рэспубліканскі, абласны бюджэт. Вось калі б зменшыць падаткі, больш грошай пакінуць на месцы, то можна было б і кацельню будаваць...

— Мы намячаем знізіць падаткі прыблізна з 30 да 22 працэнтаў, — адказаў А.Р.Лукашэнка. — Рэспубліканскі бюджэт будзе яшчэ больш бедны, затое выйграюць прадпрыемствы, гарады. Значныя сумы застануцца і ў «Беларускаліі». Вось на іх, а таксама на сродкі іншых прадпрыемстваў і трэба будаваць кацельню. Хаця і мы пастараемся знайсці пэўныя сумы грошай, дапамагчы. І зробім усё магчымае, каб забяспечыць горад вадой.

Прэзідэнт запэўніў: урад падумае, як зрабіць, каб «Беларускалій» сам прадаваў усю сваю прадукцыю, што павялічыць яго прыбыткі.

Як бачым, чарговая паездка Прэзідэнта аказалася даволі карысная для абодвух бакоў. Многім салігорцам яна прыбавіла аптымізму, упэўненасці ў заўтрашнім дні.

*Уладзімір БЫЧЭНЯ.*




## МІНСКАМУ ТРАМВАЮ — 65 ГАДОЎ

Першы трамвай у Мінску быў пушчаны 13 кастрычніка 1929 года. Дарэчы, кошт адной паездкі тады складаў 8 капеек, трамвайшчыкі нават мелі прыбытак. Сёння ж і 100 рублёў за адну паездку не дазваляюць Мінскаму трамвайнаму дэпо існаваць самастойна.

Некалькі гадоў назад мінчан абслугоўвалі 230 трамваяў. Цяпер жа па горадзе ездзяць 200, 18 з іх — чэшскай вытворчасці. Карыстаючыся тэхналагічна чыстым транспартам, мы ведаем: трамвайшчыкам цяжка. Але і ўсім нам сёння не лягчэй.

## НАРЫХТОЎКА КАРМОЎ ПРАЦЯГВАЕЦЦА

Напружана працавалі ўлетку на нарыхтоўцы кармоў для грамадскага пагалоўя хлебаробы калгаса «Чырвоны Кастрычнік» Уздзенскага раёна. У параўнанні з папярэднім годам значна больш нарыхтавана сена. Аднак ліпеньская засуха адбілася на далейшым росце траў. У выніку атрымаўся некаторы недабор сянажнай масы. І ўсё ж калгаснікі не гублялі надзеі на папаўненне запасу кармоў. Як толькі пасля дажджоў травы пайшлі ў рост, у пагодлівыя дні працягвалася нарыхтоўка сенажу, сіласу. Гэтая работа праводзілася паралельна з уборкай збожжавых, бульбы.

Не спыняецца нарыхтоўка кармоў і ў гэтыя дні. У вёсцы Нізок, напрыклад, у сіласную яму каля жывёлагадоўчых ферм закладваюцца апошнія тоны сіласнай масы з яравой саломы, атавы цімафееўкі, аўсяна-гарохавай сумесі. Вось так, дзень за днём, нарыхтавана дадаткова яшчэ 300 тон каштоўнага сіласу, што значна папоўніць запасы кармоў да пачатку зімоўкі грамадскага статка. І гэта нягледзячы на недахоп запасных частак да тэхнікі і паліўна-змазачных матэрыялаў. Асабліва шчыруюць на агрэгатах КПС-5Г і КСК-100 механізатары Генадзь Чарнавус і Мікалай Трус. На адвозцы зялёнай масы штодзень задзейнічаны 2—3 аўтамабілі і 2 трактары. Яны ж забяспечваюць яе дастаўку да ферм для скормлівання жывёле. З найлепшага боку зарэкамендаваў сябе на гэтым участку работы механізатар Аляксандр Галянішча. Увогуле, кожны калгаснік імкнецца працаваць і ў гэтыя дні на нарыхтоўцы кармоў як мага больш вынікова.

*Міхаіл БУЛАТ,*
*супрацоўнік уздзенскай райгазеты "Чырвоная зорка".*

## ДАРАГОЎЛЯ АБЯСЦЭНЬВАЕ ПРАЦУ

Няспынны рост цэн на тавары першай неабходнасці, транспарт, кватэрплату і тарыфаў на бытавыя паслугі прымусіў савет прафсаюза работнікаў аўтамабільнага і сельскагаспадарчага машынабудавання Беларусі прыняць неардынарнае рашэнне. Яно заключана ў прапанове адміністрацыі прадпрыемстваў галіны правесці з 1 кастрычніка павышэнне зарплаты і атрымліваемага даходу працуючых не менш чым на 70 працэнтаў. А прафкомам належыць арганізаваць выкананне гэтага патрабавання.

Да такіх неардынарных дзеянняў савет прафсаюза падштурхнула адмова бягучай сесіі Вярхоўнага Савета краіны перагледзець памер мінімальнай заработнай платы. А тым часам інфляцыя абясцэньвае не толькі «зайчыкі», але і саму аснову грамадства — працу. Паводле падлікаў прафсаюзаў, удзельная вага зарплаты ў грашовых даходах насельніцтва сёння складае толькі 47 працэнтаў. Гэта азначае, што ў катэгорыю малазабяспечаных трапляюць і тыя, хто працуе. Адсюль — прамы шлях да сацыяльнага ўтрыманства, да чэргаў за дапамогамі.

Пазбегнуць такой перспектывы ў сябе ў галіне і мае намер рэспубліканскі прафсаюз работнікаў аўтамабільнага і сельскагаспадарчага машынабудавання.

*БЕЛІНФАРМ.*

## МАСТАЦТВА БЫЦЬ ЗДАРОВЫМ

У школах вобласці пачалася падрыхтоўка да III рэспубліканскага конкурсу прафесійнага майстэрства педагогаў "Настаўнік года-94", які, несумненна, выявіць шмат таленавітых людзей, дапаможа распаўсюдзіць іх перадавы вопыт. У Дзяржынскім раёне на такі конкурс вырашана накіраваць выкладчыка фізічнай культуры Станькаўскай школы-інтэрната В.І.Ладзяту. Па яго праекту пабудаваны гімнастычны гарадок, выраблена больш як 30 адзінак нестандартнага абсталявання. Набыты фізкультурныя картынгі.

Васіль Іванавіч у гэтай школе працуе больш за 20 гадоў. Увесь гэты час яго выхаванцы перамагаюць на розных раённых спартыўных спаборніцтвах.

Нядаўна з вопытам работы В.І.Ладзяты знаёміліся дырэктары школ-інтэрнатаў і дзіцячых дамоў вобласці. Ім быў паказаны фільм "Мастацтва быць здаровым", у якім расказваецца аб прафесійным майстэрстве выкладчыка фізічнага выхавання, арганізаваных ім Тыднях фізкультуры, Спартландыях, стартах надзей.

На базе Станькаўскай школы-інтэрната нярэдка праходзяць заняткі ўдзельнікаў метадычнага аб"яднання фізкультурнікаў навучальных устаноў раёна.



## З юбілеем!



*НА ЗДЫМКУ: дырэктар Гарадзейскага цукровага камбіната Аляксандр Георгіевіч МАКСІМОВІЧ, якому споўнілася 60 гадоў. Расказ аб кіраўніку, аб справах узначальваемага ім калектыву чытайце на другой старонцы газеты.*

## СТАРШЫНІ КАЛГАСА «БЕЛАРУСЬ» МІНСКАГА РАЁНА Л.В.ГРЫНКЕВІЧУ

Паважаны Леанід Вітальевіч!

Прыміце самыя сардэчныя віншаванні з выпадку памятнай даты ў Вашым жыцці — 50-годдзя з дня нараджэння.

У складаных эканамічных умовах апошніх гадоў, у сённяшняй рыначнай неразбярысе ўзначальваемы Вамі працоўны калектыў не падае духам, настойліва працуе, атрымлівае на палях і фермах патрэбную народу прадукцыю, стварае іншыя матэрыяльныя каштоўнасці.

Працаўнікі гаспадаркі цэняць Вас за тое, што з маленства з гонарам несяце любоў і павагу да нялёгкай сялянскай працы, заўжды застаяцеся добрасумленным, чулым і ўважлівым да патрэб хлебаробаў, жывёлаводаў, пенсіянераў — усіх сумленных людзей гаспадаркі. Іх давер, іх павага — гэта самая высокая ацэнка Вашай нялёгкай старшынёўскай працы.

Няхай жа ў Вашым доме, у дамах усіх працаўнікоў калгаса штодзённа жывуць дабрабыт, згода і ўзаемная шчырасць!

Жадаем Вам, Леанід Вітальевіч, моцнага здароўя, вялікага сямейнага і асабістага шчасця.

*Савет калгасаў Мінскай вобласці.*

## ПРЫВАТЫЗАЦЫЯ МАЕ ПАТРЭБУ Ў РЭАРГАНІЗАЦЫІ

Расшыранае пасяджэнне калегіі Міндзяржмаёмасці было прысвечана аднаму з самых актуальных пытанняў — прыватызацыі. Як у дакладзе намесніка міністра Васіля Давыдзенкі, так і пры яго абмеркаванні пастаянна адзначалася неабходнасць актывізацыі яе правядзення. Таму што ў гэтым годзе з 375 аб"ектаў рэспубліканскай уласнасці, намечаных да раздзяржаўлення і прыватызацыі, рэфармавана толькі 145. І хоць сярод іх ёсць такія буйныя, як Мазырскі нафтаперапрацоўчы завод, вытворчыя аб"яднанні «Лідсельмаш», «Мастоўдрэў», гродзенскае «Хімвалакно» і іншыя, падкрэслівалася, што за апошнія некалькі гадоў прыватызавана толькі чатыры працэнты дзяржуласнасці.

Працэсу перашкаджае многа як недапрацовак, так і памылак. Наспела неабходнасць унесці змяненні ў законы аб арэндзе, аб прадпрыемстве і іншыя. На сённяшні дзень не дзейнічае Закон аб банкруцтве. Зрабіла ўплыў таксама на актыўнасць людзей і перадвыбарная прэзідэнцкая кампанія. Паколькі ў праграме амаль кожнага прэтэндэнта змяшчалася крытыка ў адрас прыватызацыі. Усё гэта прывяло не толькі да яе замаруджвання, але дзе-нідзе і да прыпынення.

Цяпер навальнічныя хмары развеяліся. І, здаецца, ужо ў самы бліжэйшы час будзе дакладна адкарэкціраваны механізм правядзення, а сама прыватызацыя пойдзе, як кажуць, поўным ходам. У прыватнасці, і ў прынятым рашэнні калегіі падкрэсліваецца неабходнасць яе актывізацыі.

Галоўная ўвага пры перадачы дзяржмаёмасці ў прыватныя рукі будзе звернута на правядзенне аўкцыёнаў, дзе кожны ў адкрытай абстаноўцы зможа набыць акцыі прадпрыемстваў і за чэкі, і за грошы.

Калегія таксама прыйшла да вываду аб змяненні саміх падыходаў да правядзення гэтай кампаніі. Каб эканамічна зацікавіць працоўныя калектывы, неабходна на ўзроўні Кабінета Міністраў і Вярхоўнага Савета прыняць новыя дакументы, якія прадугледжваюць, напрыклад, магчымасць пакідаць у распараджэнні акцыянернага таварыства частку сродкаў ад продажу пярвічнай эмісіі акцый і дывідэндаў для санацыі абсталявання, асваення новых тавараў народнага спажывання і ўтрымання аб"ектаў сацкультбыту, а па сацыяльна значных для дзяржавы аб"ектах ажыццяўляць продаж акцый /паёў, долей/ за імянныя прыватызацыйныя чэкі «Маёмасць» толькі для членаў працоўнага калектыву. Наспела таксама неабходнасць і ў іншых змяненнях раней прынятых урадам і парламентам рашэнняў па гэтаму пытанню.

*БЕЛІНФАРМ.*

■ З нагоды

## "МІНСКАЯ ПРАЎДА" пачынае, падпісчык і чытач выйграюць

Подых надыходзячага чарговага года першымі, бадай, адчуваем мы, газетчыкі. Да студзеня 95-га яшчэ два з паловай месяцы, а рэдакцыйныя калектывы павінны ўжо думаць і дбаць пра сваё існаванне, пра свае справы ў новым годзе.

І гучным сігналам да гэтага звычайна з'яўляецца пачатак падпісной кампаніі. Галапіруючыя цэны вымушалі сёлета пытанні падпіскі не здымаць з парадку дня ні на хвіліну. Перад кожным чарговым кварталам наш падпісчык, каб застацца са сваёй газетай, павінен быў ісці ў аддзяленне сувязі і даплачваць за магчымасць мець яе ў сваім доме. На наступны год сувязісты "адважыліся" аб'явіць падпіску адразу на шэсць месяцаў. Па ўзгодненасці з абласным упраўленнем сувязі падпіска на нашу газету будзе працягвацца ***да 15 снежня г.г.***

Якая "Мінская праўда" сёння — пастаянныя яе чытачы ведаюць. Якой паўстане перад сваімі прыхільнікамі ў наступным годзе — можна сказаць коратка: будзем імкнуцца зрабіць яе яшчэ цікавейшай і забяспечыць магчымасць выказацца на яе старонках — пры жаданні — кожнаму. Незалежна ад яго поглядаў і перакананняў.

Адносна іншых выданняў падпісная цана на абласную газету больш-менш памяркоўная:

**на 1 месяц — 1.200 рублёў,**
**на 3 месяцы — 3.600 рублёў,**
**на 6 месяцаў — 7.200 рублёў.**

Не зацягвайце з падпіскай, сябры. Тое, што можна зрабіць сёння, не варта адкладваць на заўтра. Нам жа здаецца: справа гонару кожнага жыхара Міншчыны мець у сваім доме абласную газету.

Словам, "МП" пачынае падпіску на 1995 год, а выйграюць у першую чаргу нашы падпісчыкі і чытачы.

Заставайцеся з намі!

■ Кіраўнік і калектыў

## А.Г.МАКСІМОВІЧ:

# НЕ МЯНЯЮ ПОГЛЯДАЎ І СЯБРОЎ

ЁН З ТЫХ ЛЮДЗЕЙ, пра якіх не скажаш, што нарадзіліся ў кашулі. Маленькаму Сашу было крыху больш трох гадоў, калі арыштавалі бацьку /ён працаваў дырэктарам ільнозавода ў Гарадоцкім раёне/. У 1937—38 гадах, як вядома, па начах "хапалі" не толькі партыйных работнікаў, дзеячаў навукі і культуры, але і бухгалтараў, вартаўнікоў, стрэлачнікаў... Усіх абвінавачвалі, як правіла, у нацыяналізме, адыходзе ад сталінскай лініі. Георгія Максімовіча нядоўга трымалі ў турме, расстралялі праз некалькі месяцаў пасля арышту ў 1938 годзе.

Што і казаць, сям"я "ворага народа" /пяцёра малых дзяцей было на руках у маці/ адразу адчула варожасць з боку мясцовых улад. Іх выкінулі з маленькай кватэркі: жывіце як хочаце і дзе хочаце. Добра, што старэйшы брат Антон заняўся рыбалкай. Сёе-тое выменьвалі з прадуктаў. Потым уладкавалася на работу і маці. Яна пакідала дома дзяцей адных. Заробку не хапала. Галадалі, хадзілі босыя і голыя. Памёр з голаду брацік Сашы, а летам утапілася ў рэчцы сястрычка. У валасах маці, тады яшчэ маладой жанчыны, з"явілася сівізна.

З першых дзён вайны брат Антон пайшоў добраахвотнікам на фронт. Сямігадовы Саша быў памочнікам маці. Перабраліся ў вёску, каб мець хоць якую бульбіну, качан капусты. Хлопчык марыў пра баі, пра гераізм. Спрабаваў нават уцячы на фронт, але яго затрымалі на чыгуначнай станцыі.

Цяжкае было жыццё ў пасляваенныя гады. Жылі ў вёсцы Тупіча Ваўкавыскага раёна. Саша з маці пасвілі авечак, зараблялі на кавалак хлеба. Вярнуўся дамоў Антон. Усе грудзі былі ў ордэнах і медалях. Ды і цяпер на яго глядзелі падазрона: з сям"і "ворага". Антон вельмі перажываў, хацеў нават накласці на сябе рукі. Але маці ўгаворвала: "Сынок, усё ўляжацца, праўда — яна не гарыць у агні". Так, толькі пасля смерці Сталіна, калі вярнулі добрае імя бацьку, сям"я Максімовічаў адчула, які камень зваліўся ў іх з душы.

Аляксандр рана пайшоў у самастойнае жыццё. Скончыў сямігодку, Гродзенскае рамеснае вучылішча. Колькі было радасці, калі стаў працаваць слесарам на ліцейна-механічным заводзе! Першыя заробкі, першыя падарункі самаму дарагому чалавеку — маці. Затым служба ў арміі, праца на Скідальскім цукровым заводзе камсоргам, вучоба ў вячэрняй школе. Не пакідала мара і аб вышэйшай адукацыі. Ужо будучы сталым чалавекам, закончыў завочна Маскоўскі інстытут харчовай прамысловасці.

Чаму так падрабязна пішу пра біяграфію Аляксандра Георгіевіча? Ды таму, што тыя гады, як бы ні хацеў, не выкінеш з памяці. Можа, цяжкае дзяцінства, ранняя сталасць і наклалі адбітак на яго характар. Максімовіч — чалавек, які глыбока разумее жыццё, псіхалогію простых людзей. Умее знайсці да іх падыход. Мабыць, гэта і дапамагло яму сцэментаваць калектыў, калі працаваў дырэктарам Слуцкай макароннай фабрыкі. Ужо тады ён адчуў, што ад кіраўніка вельмі многае залежыць, асабліва ўмацаванне дысцыпліны і парадку.

З 1971 года Аляксандр Георгіевіч працуе дырэктарам Гарадзейскага цукровага камбіната. Нават цяжка пералічыць тыя праблемы, якія даводзіцца яму вырашаць. Спачатку, у першыя гады яго кіраўніцтва, усім калектывам, сумесна з ІТР, перапрацоўвалі за суткі толькі 1,1—1,2 тысячы тон буракоў. Патэнцыяльныя магчымасці, лічыў Максімовіч, былі значна большыя. Таму пачалі рэканструкцыю камбіната. І з цягам часу сутачная перапрацоўка буракоў дасягнула 2,2—2,5 тысячы тон. Калектыў неаднаразова выходзіў пераможцам спаборніцтваў у рэспубліцы і нават у былым СССР.

Калі ідзеш па рабочым пасёлку цукравараў, бачыш добраўпарадкаваныя вуліцы. Яны "пасталелі", "абраслі" паркам, дэкаратыўным кустоўем. Сотні і сотні сем"яў жывуць у добраўпарадкаваных кватэрах. Як ні цяжка зараз з фінансамі, камбінат не "згортвае" сацкультбыт. Адкрыў свой магазін, дзе можна набыць розныя прамысловыя тавары. Працуе кафэ-бар. Для паслуг тых, хто заняты ў начной змене, — бясплатная сталовая. Тут ужо не ўяўляюць жыцця без дзіцячага сада, музычнай школы, піянерскага лагера.

Новы час — новыя турботы. Сёння цяжка дырэкцыі камбіната набываць неабходнае абсталяванне, каб працягваць рэканструкцыю, цяжка аператыўна разлічвацца з пастаўшчыкамі сыравіны. Скажам, на складах ляжыць цукар /на 11 кастрычніка агульным коштам больш шасці мільярдаў рублёў/. На прадукцыю пакуль што не адладжаны цэны. Хіба гэта парадак? Людзям жа трэба плаціць зарплату, трэба ўдасканальваць вытворчы працэс.

Адна з характэрных рыс Максімовіча — нестандартнае мысленне. Тыя, хто чуў яго выступленні на раённай ці абласной сесіях /ён з"яўляецца дэпутатам абласнога Савета, старшынёй пастаяннай камісіі па прамысловасці, энергетыцы і транспарту/, маглі пераканацца, што інтарэсы дзяржавы ў дырэктара на першым плане. Яшчэ ў былыя гады Аляксандр Георгіевіч з болем у душы гаварыў аб неабходнасці расшырэння буракасеючай зоны, прадастаўлення камбінату большай самастойнасці, аб засіллі чыноўніцкай бюракратыі. Многія яго задумы і меркаванні сёння ўвасабляюцца ў жыццё.

У заключэнне нашай размовы я спытаў у Максімовіча, як будзе камбінат развівацца далей, як будуць жыць маладыя сем"і, у якіх няма жылля. Бо на прадпрыемстве ідзе змена пакаленняў, многія пажылыя кадравыя рабочыя ўступаюць месца моладзі. Аказваецца, і над гэтай праблемай тут думаюць. Ужо ёсць праект на будаўніцтва 50—60 аднакватэрных дамоў ля вёскі Студзёнкі. Сродкі камбіната будуць аб"яднаны з фінансамі мясцовага калгаса "Гарадзейскі". Дарэчы, з яго кіраўніком Аляксандрам Губарэвічам у Максімовіча самыя цесныя дзелавыя сувязі. Пры забудове новага пасёлка мяркуецца падключыць і сродкі тых, каму будуць выдзелены кватэры. Гэта, мне здаецца, неблагі варыянт. Што датычыць вытворчай магутнасці камбіната, то яна будзе павышацца за кошт рэканструкцыі.

...Чатыры нявыкарыстаныя адпачынкі ў Аляксандра Георгіевіча. Той-сёй запярэчыць: маўляў, незаменных людзей няма. Мне ж тут бачыцца іншае: Максімовіч з тых кіраўнікоў, хто ва ўмовах эканамічнага развалу хоча быць разам з калектывам, дзяліць яго радасці і беды. Так, капітан карабля не пакіне мосцік, пакуль вакол "кіпіць" шторм.

У добры шлях, Аляксандр Георгіевіч! Вы і ў свае 60 гадоў упэўнена стаіце ля рабочага "штурвала", з аптымізмам глядзіце ў заўтрашні дзень. А ваша жыццёвае крэда: "Не мяняю поглядаў і сяброў" раскрывае вас як чалавека прынцыповага, самаадданага, з кагорты тых, з кім "ходзяць у разведку".

*Канстанцін ПРЫЁМКА.*

**НА ЗДЫМКАХ: А.Губарэвіч і А.Максімовіч; начальнік змены станцыі ачысткі сокаў С.Еўтух і сатуратаршчыца Я.Вялько робяць аналіз; буртаванне буракоў; на складзе гатовай прадукцыі; апаратчык дыфузіі В.Шлемен; за работай транспартавальшчык Д.Новік; на прыёме ў фельчара Л.Хіневіч.**

*Фота Анатоля БАСАВА.*









# Пра рукі і сэрцы залатыя

## Маршалкаўскі клуб пенсіянераў

На прыгожай лясной паляне раскінулася вёска Маршалкі. Невялікая, усяго 46 дамоў, жывуць тут цудоўныя людзі. Працавітыя, сардэчныя, якія пакінулі добры след на гэтай зямлі, на радасць сабе і людзям выгадавалі дзяцей.

Цяпер ім патрэбна асаблівая ўвага, цёплыя, чулыя адносіны, паўсядзённы клопат. Ролю апекуноў, памочніц кожнай такой сям"і ў вёсцы выконваюць загадчыца клуба Вера Паўлаўна Пракаповіч і бібліятэкар Таццяна Уладзіміраўна Лоўчая. Невялікае памяшканне клуба стала месцам, дзе вяскоўцы спраўляюць сямейныя святы, збіраюцца разам і ў радасці, і ў горы. Дарэчы, многія з іх свой клуб лічаць другім домам. Цяпер, калі ў пенсіянераў вольнага часу прыбавілася, ім хочацца сустрэцца з суседзямі, знаёмымі. Таму і звярнуліся Вера з Таццянай у аддзел культуры і раённы цэнтр народнай творчасці з прапановай аб пераўтварэнні Маршалкаўскай культасветустановы ў клуб пенсіянераў.

Першая сустрэча работнікаў раённага метадычнага цэнтра і яго фальклорнага калектыву "Беларусачка" з вяскоўцамі адбылася ў студзені 1993 года на мерапрыемстве "Калядныя забавы". Свята прайшло цікава. Кожны вясковец атрымаў вялікае задавальненне.

Гаспадыні пастараліся зрабіць клуб цёплым, чыстым, утульным. Вяскоўцы прынеслі работы народных майстроў. А іх тут сустрэнеш у кожнай хаце: вырабаў хапіла на цэлую выставу. План дзейнасці складаўся не з казённых "мерапрыемстваў", а зыходзячы з духоўных запатрабаванняў пенсіянераў, іх інтарэсаў. У падрыхтоўку аднаго з першых вечароў, прысвечанага жанчынам і названага "Пра рукі і сэрцы залатыя", актыўна ўключыліся маршалкаўскія мужчыны, зразумела, з дапамогай метадыстаў раённага цэнтра народнай творчасці. Атрымалася цікава, весела. Ужо тады стала ясна, што клубу наканавана другое жыццё. Так яно і здарылася. Жанчыны стварылі фальклорны калектыў, у які ўвайшлі Валянціна Аляксееўна Пракаповіч, Валянціна Іосіфаўна Пракаповіч, Марыя Антанінаўна Грышкевіч, Соф"я Сцяпанаўна Лоўчая, Мялання Герасімаўна Зайкоўская, Валянціна Мікалаеўна Арлоўская, Тамара Фёдараўна Мамонька. Розныя па характару, кожная са сваімі звычкамі і праблемамі, а пасябравалі шчыра і надоўга. Здружыла іх песня. Часта ходзяць праведваць адна адну, дапамагаюць капаць бульбу. Разам, талакой, убіраюць калгасныя буракі. Ад добрай і вясёлай песні маладзеюць твары жанчын, разгладжваюцца маршчынкі. Канцэрты свае самадзейныя артысткі звычайна прымяркоўваюць да святаў.

Усёй вёскай рыхтавалася свята "Вялікдзень". Валачобнікі наведалі кожны дом, запрашалі спяшацца ў клуб, дзе іх чакалі святочныя сталы. Валачобнікі раскрылі свае торбы, на абрусах з"явіліся каляровыя яйкі, каўбасы, іншыя прысмакі. Гучалі валачобныя і велікодныя песні. Вясёлыя гульні і танцы захапілі ўсіх прысутных. Кожны з удзельнікаў свята раскрыўся ў гэты дзень усімі гранямі сваёй душы і таленту, адчуў, як знікае цяжар пражытых гадоў, вяртаецца маладосць.

Не сумуюць у вёсцы цяпер і жанчыны, якіх напаткала на старасці год адзінота. Для іх клуб падрыхтаваў свята "Удовін лёс". А на народнае свята "Спас" у культасветустанове сабраліся нават жыхары навакольных вёсак. Святар Валожынскай царквы айцец Дзмітрый па запрашэнню савета клуба пенсіянераў асвяціў дамы, выставу яблыкаў з мясцовых садоў, урачыста адкрыў мерапрыемства.

Стала ўжо традыцыйным і народнае свята "Дзяды". У гэты дзень кожны жыхар прыходзіць у клуб са сваёй свечкай. Сардэчны ўспамін аб продках, якія жылі ў гэтай вёсцы, ачышчае і ўзвышае душу, становіцца неад"емнай часткай жыцця.

Не так даўно ў клубе праводзілі на пенсію мужа і жонку Аляксандра Фларыянавіча і Ганну Паўлаўну Сікорскіх. Расказвалі аб нялёгкім і прыгожым лёсе сямейнай пары, якая дружна пражыла разам 30 гадоў. Вяскоўцы падарылі юбілярам шмат песень, танцаў, цёплых слоў. Цяпер у клубе пенсіянераў рыхтуецца залатое вяселле.

Кожнай сям"і ў гэтым цёплым доме знаходзіцца месца. Прыязджаюць на святы дзеці, унукі пажылых людзей. Адным словам, вірue жыццё, уносіць святлінку ў побыт вёскі дзейнасць клуба пенсіянераў.

*Лілія ЖМАЧЫНСКАЯ,*
*вядучы метадыст абласнога цэнтра народнай творчасці.*
*Валожынскі раён.*

# СТАЎКІ ВЫРАСЛІ. НЕ АД ДАБРА

Агульнае пагаршэнне эканамічнага становішча адбілася і на дзейнасці дзіцячых дашкольных устаноў. Па прычыне фінансавага голаду некаторыя прадпрыемствы і арганізацыі сталі зачыняць свае ведамасныя стратныя дзіцячыя садкі. Улічваючы гэта, два гады таму назад Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь прыняў пастанову «Аб захаванні і развіцці сеткі дзіцячых дашкольных устаноў». У адпаведнасці з гэтай пастановай, рашэннем Барысаўскага райсавета быў створаны пазабюджэтны фонд для фінансавання расходаў на ўтрыманне дзіцячых дашкольных устаноў раёна за кошт масавага збору з усіх прадпрыемстваў і арганізацый, калгасаў, саўгасаў, кааператываў у памеры 3,5 працэнта фонду заработнай платы.

Аднак у выніку павышэння тарыфаў на камунальныя паслугі, падаражання прадуктаў харчавання затраты на ўтрыманне дзіцячых дашкольных устаноў выраслі настолькі, што той самы пазабюджэтны фонд аказаўся не ў стане пакрыць і палавіну выдаткаў. Так, напрыклад, за першае паўгоддзе паступленні ў пазабюджэтны фонд склалі 42 мільёны рублёў пры фактычнай патрэбнасці 88 мільёнаў. Таму для ліквідацыі запазычанасці пазабюджэтнага фонду прадпрыемствам і арганізацыям, на балансе якіх знаходзяцца дзіцячыя сады, і поўнай кампенсацыі затрат на іх далейшае ўтрыманне на чарговай сесіі райсавета дэпутаты прынялі рашэнне аб павышэнні стаўкі мэтавага збору да 7 працэнтаў. Пайсці на такі крок народных выбраннікаў прымусіла само жыццё.

*Мікалай ЧАЛЕЙ.*

■ Актуально!

# НЕ ХВАТАЙТЕСЬ ЗА ЧУЖИЕ ТАЛИИ

**Чего-чего, а болезней на долю человека выпадает предостаточно. Начиная от легкого насморка и кончая СПИДом. Заметное место в этом весьма нежелательном перечне занимают так называемые "интимные" болезни. О них и пойдет речь в беседе нашего корреспондента с главным врачом областного кожно-венерологического диспансера А.А.КИПНИСОМ.**

***— Анатолий Аврамович, как вы можете охарактеризовать ситуацию с венерическими заболеваниями в области на данный момент?***

— Ситуация весьма неутешительная. Заболеваемость, скажем, сифилисом за последние два года возросла почти в три с половиной — четыре раза. Среди районов в лидеры вышли Минский, Дзержинский, Солигорский, Слуцкий. Неважная картина в городах Борисове, Молодечно, Жодино, Заславле. В целом же пациентов с диагнозом "сифилис" или "гонорея" с начала года в области было зарегистрировано более двух тысяч человек. Цифра очень тревожная. Такого всплеска "интимных" болезней на Минщине и в республике в целом не наблюдалось с 1946 года, когда был зафиксирован рекордный уровень заболеваемости "венерой". И вот теперь, пережив эпоху развитого социализма, горбачевскую перестройку, мы столкнулись с очередным "венерическим" взрывом.

***— Каковы его причины?***

— Можно, естественно, сослаться на нестабильность экономического и политического положения в республике. Но первопричина, на мой взгляд, лежит глубже — в низком духовном и культурном уровне людей. Любовь сведена к примитивному половому партнерству. Отсюда частые и беспорядочные связи. И, как следствие, — серьезные венерические заболевания.

***— Раньше считалось, что ими страдают люди, ведущие аморальный образ жизни, т.е. алкоголики, бродяги, а теперь?***

— Да, до недавнего времени существовало мнение, что наши пациенты в основном бомжи, пьяницы, деградированные личности. Есть, разумеется, и такие. Подобных фактов отрицать нельзя. Но основную часть группы риска сегодня составляют другие люди. Это, как правило, специалисты, которые часто бывают в командировках:например, дельцы от бизнеса, которые располагают большими деньгами и могут "снять" женщину.

Резко возросла заболеваемость гонореей и сифилисом среди несовершеннолетних. Причины известны: просмотры порнофильмов по "видику" раскрепощают их. А элементарная половая безграмотность позволяет не думать о последствиях.

***— Существует, однако, 113-я статья УК, которая сурово карает за распространение вензаболеваний.***

— Такая статья пока существует. И она предусматривает наказание до двух лет лишения свободы. Но вряд ли тюрьма способна перевоспитать человека. Тут нужны какие-то иные формы воздействия. Скажем, обязать оплачивать лечение тех, кого он или она заразили "венерой".

***— Как вы в таком случае смотрите на воспитательно-профилактическую работу в данной области и в первую очередь среди подростков, молодежи?***

— Эта работа сегодня очень и очень нужна. Кстати, мы совместно с врачом Л.Г.Жиевской ее проводили. Она обычно встречалась с девочками, я беседовал с мальчиками. Помню такой случай. Захожу в класс. Шум, гам, портфели по воздуху летают. Классный руководитель попытался навести порядок. Я же попросил его оставить нас наедине. Начал разговор. Смотрю — ребята попритихли. Стали внимательно слушать. А в конце беседы мне задали массу вопросов. Таким образом, воспитательно-профилактическая работа обязательно даст положительный результат, если проводить ее заинтересованно.

***— Анатолий Аврамович, способна ли ваша служба эффективно бороться с вензаболеваниями?***

— Вопрос достаточно серьезный. И однозначно ответить на него я не решаюсь. Действует областной кожно-венерологический диспансер, пять городских. Подобран штат достаточно опытных специалистов. Но, скажем, мы испытываем определенные трудности с медикаментами. Оставляет желать лучшего материально-техническая база. Наши службы расположены в крайне не приспособленных для работы помещениях. Которые, собственно говоря, и помещениями-то можно назвать с большой натяжкой.

Недавно прошел День главного врача, посвященный нашим проблемам. Кроме специалистов-медиков присутствовали заместители председателей гор- и райисполкомов. Думаю, они поняли наши трудности и опасность роста вензаболеваний.

***— Кстати говоря, раньше, насколько мне известно, к борьбе с "венерой" привлекались и общественные силы...***

— Да. Существовали так называемые межведомственные комиссии. В них, наряду с руководителями медслужб, входили работники МВД, директора крупных предприятий. Возглавляли эти комиссии заместители председателей исполкомов. Если возникал кризисный очаг, создавалась оперативная группа по его ликвидации.

Не скажу, что система функционировала идеально, но многое в ее работе давало неплохие результаты.

Сегодня ситуация несколько иная. Работники милиции практически устранились от сотрудничества с нами. Это серьезно усложняет нашу деятельность.

Правда, потихоньку начинаем возвращаться к опыту прошлых лет. Снова создаются межведомственные комиссии, штабы по борьбе с вензаболеваниями. Есть надежда, что общими силами удастся обуздать их всплеск.

***— Бытует мнение, что заболевание сифилисом или гонореей не столь опасно, чтобы при первых же симптомах обращаться к врачу. А в молодежной среде эта хворь вообще считается признаком мужского достоинства...***

— Весьма печально, что некоторые расценивают подобные болезни как насморк или кашель. Если вовремя не обратиться к врачу и не пройти курс специального лечения, то не исключен летальный исход. В лучшем случае таких "героев" ожидает бесплодие, импотенция. Что касается женщин, то венерические заболевания могут отрицательно сказаться на потомстве.

***— Сейчас становится модным лечить подобные болезни "на дому". Насколько вы, как специалист, оправдываете подобную практику?***

— Наше учреждение почему-то наводит на людей страх. Хотя именно здесь они смогут получить квалифицированную помощь. Сведения о человеке, который обратился к нам, содержатся в тайне. При регистрации он просто кодируется, а в больничном листке не указывается истинный диагноз его болезни. Правда, есть исключительные случаи, когда мы обязаны обращаться в компетентные органы. Например, одна больная "венерой" женщина имела свыше трех десятков половых контактов. Таких мы обязаны разыскивать через милицию.

Во всех остальных случаях мы строго соблюдаем врачебную тайну. Что касается лечения "на дому", то, как правило, этим занимаются люди, далекие от медицины. На какое-то время такие специалисты, возможно, и способны приостановить течение болезни, но потом она обычно обостряется. И приобретает весьма угрожающие для здоровья человека формы.

Так что лечиться подобным образом никому не рекомендую.

***— А что бы вы могли посоветовать тем, кого все-таки постигла подобная участь?***

— Давайте исходить из простой истины: болезнь легче предупредить, чем излечить. Поэтому свои чувства и страсти стремитесь подчинить разуму и рассудку. Ну а если "уж очень хочется" — постарайтесь соблюдать элементарные правила предосторожности. Когда же ни то, ни другое вам не помогло — немедленно обращайтесь к врачу-специалисту. В противном случае вас ожидают печальные последствия.

*Беседовал Николай ЖУЧКО.*

